Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



**КАМУНІКАТ Но. 5. (36 АД 1991), Ліпень, 1999.**

## ЮБІЛЕЙ МІТРАПАЛІТА БАПЦ УЛАДЫКІ МІКАЛАЯ

18 ліпеня, у нядзелю парафія БАПЦ Сьв. Кірылу Тураўскага ў Таронта, Канадзе, сьвята адзначала 45-я ўгодкі сьвятарства й 30-я ўгодкі япіскапскага сану Дастойнага Мітрапаліта, Першаерарха БАПЦ Уладыкі Мікалая.

Ураыстасьці пачаліся зраніцы ў царкве Багаслужбай. Пасьля гімну «Магутны Божа» вернікі перайшлі ў залю БР-ГЦ, дзе адбылася сьвяточная застольная бяседа пад кіраўніцтвам старшыні Парафіяльнай рады Аляксандра Бушкевіча.

Вітала Яго Праасьвяшчэнства Праасьвяшчэньнейшага Мітрапаліта Першаерарха БАПЦ Уладыку Мікалая з юбілеем ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады стршыня яго др. Раіса Жук-Грышкевіч :

«Вітаем Вас, Дастойны Уладыка, з 45-мі ўгодкамі Вашай ахвярнай душпастырскай службы Богу, Бацькаўшчыне-Беларусі, Беларускай Аўтакэфальнай Праваслаўнай Царкве. Жадаем Вам добрага здароўя, фізычнай і духовай сілы прадаўжаць на мгогія яшчэ годы так істотную для нас, для Беларусі Вашую душпастырскую дзейнасьць.

Дарагія Суродзічы! 45 год таму назад, вясной 1954 году, наш Уладыка, тады Міхась Мацукевіч, пасьпяхова закончыў студыі ў Духоўнай праваслаўнай сэмінарыі ў Вініпэгу й там-жа быў высьвечаны ў сьвятары. Вось-жа гэты, надзвычай важны ў жыцьці сьвятара, юбілей сяньня мы сьвята з вамі адзначаем.

45-ці гадовая душпастырская дзейнасьць Уладыкі Мікалая была заўсёды цесна зьвязана зь беларускім нацыянальным грамадзкім жыцьцём у Канадзе.

Як мы ведаем, із заснаваньнем ў 1948 г. Згуртаваньня Беларусаў Канады, у Канадзе пачалося беларускае нацыянальнае арганізацыйнае жыцьцё.

Мэты й шляхі разьвіцьця яго былі вызначаны нацыянальнай элітай нашай групы, а дакладней Вінцэнтам Жук-Грышкевічам, гэтак:

1. Нам патрэбная моцная нацыянальная арганізацыя, верная ідэалам 25 Сакавіка , Ураду й Радзе БНР.

2. Беларуская нацыянальная арганізацыя павінна мець, як маральную апору сваю Беларускую Аўтакэфальнуыю Праваслаўную Царкву.

3. Нацыянальная арганізацыя мусіць мець матарыяльную базу. Трэба мець свой для грамадзкага карыстаньня, беларусі дом, сваю Крэдытовую супалку.

Маючы акрэсьленую мэту дзеяньня, мы, сябры ЗБК, крок за крокам імкнуліся нашыя мэты рэалізаваць. Кіраўніцтва ЗБК занялося справай куплі беларускага дому,



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

што было складаным, бо ніхто з нас ня меў ані грошаў, ані нават свайго кутка. Ды таксама нам трэба было знайсьці беларускага сьвятара, які падпараткоўваўся юрыздыкцыі БАПЦ. Такога блізка ня было.

Адзін спасярод нас малады сябра, Міхась Мацукевіч, ідучы за нутраным голасам-пасланствам, вырашыў пасьвяціць сваё жыцьцё службе Богу й Бацькаўшчыне-Беларусі. На гэта патрэбная была яму ня толькі духовая, але й тэалягічная падрыхтоўка. Таму ён накіраваўся ў Вініпэг у Духоўную, украінскую дарэчы, сэмінарыю, якую ў травені 1954 году пасьпяхова закончыў, і там-жа быў высьвячаны ў сьвятарскі сан.

У Таронта тымчасам пад канец лета 1954 году ЗБК купіла першы беларускі дом у Канадзе, што на вуліцы Дандас 1000. Старшынём ЗБК быў тады сьв. пам. маг. Алесь Грыцук, сакратаром - сьв. пам. Мікола Ганько. З двох найпрыгажэйшых пакояў дому пабудавалуі мы першую ў Канадзе капліцу БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага. Як помнік сьв. пам. Мечыславу Рачыцкаму, дзейнаму сябру ЗБК, дагэтуль у нашай царкве знаходзяцца, па мастацку зробленыя ім, Царскія дзьверы Іканастасу.

Першая Багслужба ў БАПЦ ў Таронта, якую ўрачыста адправіў айцец Міхал Мацукевіч, адбылася 2-га кастрычніка, 1954 году. Псаломшчыкам і кіраўніком хору быў сьв. пам. Пётра Слаўко, бацька Ніны Чорнае, а ейная матка сьв. пам. сп-ня Слаўко была галоўнай пеўчай, бо ведала царкоўныя напевы. А 20-га лістапада гэтага-ж 1954 году адбылося ўрачыстае асьвячэньне Беларускага Дому ў Таронта Яго Праасьвяшчэнствам Архіяпіскапам БАПЦ Уладыкам Васілём зь Нью Ёрку ў присутнасьці вялікай колькасьці суродзічаў з Канады й ЗША, чуць ня ўвесь Клівэлянд прыехаў.

І так, ня гледзячы на цяжкасьці й маральны ўдар, якім быў раскол ЗБК у 1952 годзе, Згуртаваньне Беларусаў Канады ўжо ў 1954 г. здабыло сабе матарыяльную й рэлігійную базу. Мела сваю беларускую царкву, свяйго сьвятара, свой дом, а з 1953 году, сваю касу Самапомачы, мела сваю газэту «Беларускі Эмігрант», які зьбіраў беларусаў Канады пад крыльлі ЗБК, ды прыходу БАПЦ.

Праз 5 год сялібай ЗБК быў дом на Дандас 1000. У 1959 гоедзе ЗБК гэты дом прадае й грошы з прадажы ўкладае ў куплю Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру на 524 Ст. Клярэнс Аве. ў Таронце. Будынак гэты быў набыты ў канцы жніўня 1959 году, а 21 й 22 лістападса, пасьля рамонтаў, уладжаньня капліцы-царквы, адбылося ўрачыстае яго асьвячэньне з удзелам Яго Праасвчэнства Архіяпіскапа БАПЦ Уладыкі Васіля зь Нью Ёрку.

Дык у жніўні споўніцца 40 год БР-ГЦ на 524 Ст. Клярэнс Аве. у Таронта.
Але-ж, каб купіць дом у Таронта, патрэбныя грошы. Іх трэба было сабраць з грамадзтва. Гэтай справай ужо даўно займалася Гал. Управа ЗБК і газэта «Беларускі Эмігрант», ды наш а. Міхал, сяняшні Уладыка Мікалай, энэргічна й ахвярна аддаецца справе здабываньня фондаў на фінансаваньне царквы ды БР-ГЦ. Ён езьдзіць па ўсіх бліжэйшых і далёкіх асяродках, дзе толькі жывуць беларусы, расказвае ім пра куплю беларускага дому, у якім пабудавана царква й просіць аб ахвяры й беларусы адгукаліся пазытыўна. Наагул трэба прызнаць, нашае беларускае грамадзтва ў Канадзе ахвярнае, таму мы маглі дружна шмат што й асягнуць.

Агульна прынята, што сьвятара ўтрымоўвае парафія. Але наш айцец Міхал у

нядзелі й сьвяты служыць у царкве, а на працягу тыдня працуе у хфабрыцы, каб зарабіць на сваё ўтрыманьне. І гэтак працаваў ён у хфабрыцы праз пятнаццаць год аж да часу, калі ў 1969 , стаўся япіскапам. Тады грамадзтва сказала, што япіскап ня можа працаваць у хфабрыцы.

Уладыка Мікалай, калісь айцец Міхал, быў заўсёды цесна зьвязаны з усім беларускім нацыянальным жыцьцём у Канадзе. Недзе перд 1970 годам Уладыка Васіль стараецца аб новага беларускага япіскапа. Не дарма-ж ён,назіраючы за душпастырскай і беларускай дзейнасьцьцю айца Міхала, зьвярнуўся якраз да яго з прапановай, ці не згадзіўся бы ён узяць на сябе такі цяжар, такую адказнасьць, як япіскапскі сан. Айцец Міхал пэўне-ж мусіў добра заглянуць у глыбіню свае душу, каб даць адказ. Відавочна тут была Божая Воля. Ісус Хрыстос як сваіх апосталаў, пасылаў айца Міхала й казаў яму: «Вязьмі свой крыж і йдзі за мною» І айцец Міхал узяў свой крыж, як бы цяжкім ён ня быў, пайшоў і ідзе ўсьцяж за Ісусам Хрыстом.

Пра сваю дзейнасьць, як япіскапа а пасьля Першаерарха БАПЦ найляпей расказаў бы нам сам Уладыка. Што мы ведаем, гэта тое, што ён ўвёў у багаслужбы у нашай царкве ў Таронта беларускую мову. На гэта патрэбныя былі яму беларускія пераклады праваслаўных багаслужбаў і ён над імі цэлымі гадамі працаваў і дзякуючы перадусім яму цяпер БАПЦ іх мае й можа імі карыстацца.

І сяньня мы, Дарагі Уладыка Мікалай, хочам выразіць нашую глыбокую да Вас пашану й удзячнасьць за Вашую ахвярную працу, накіраваную для нашага духовага дабра й здароўя, для нашага духовага - рэлігійнага й нацыянальнага жыцьця.

І сяньня мы молім Усявышняга , каб захаваў нам Уладыку Мікалая ў добрым здароў'і, працаздольнасьці яшчэ на многія годы.

Жыве Уладыка Мікалай! Жыве Беларусь !»

Аляксандар Бушкевбіч прачытаў прывітаньне Уладыку Мікалаю ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Віталі Уладыку Кастусь Акула, Барыс Кірка й іншыя сябры. Пяялі мы яму «Многія лета». Сакратар Парафіяльнай рады Надзея Дробіна й Алесь Кот уручалі Яму падаркі. На праграму ўрачыстасьці складаліся й вакальныя нумары. Ірына Мартусевіч, студэнтка палітычнух навукаў Ёркскага унівэрсытэту, мілагучным галаском выканала пад гітару тры песьні: «Белавежская пушча», «Беларусь» і сэрца кранаючае :

Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні, -
На чужое неба ўжо гляджу сягоньна.
Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,
Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.

Наканец прамаўляў Уладыка Мікалай. Ён завяшчаў нам, што ў кажнай працы трэба быць чэснынмі й усё, што робім рабіць зь любоў'ю.

Гімнам «Магутны Божа» закончылі мы сьвяткаваньне юбілею Уладыкі Мікалая.

Раіса Жук-Грышкевіч

## 10-я ЎГОДКІ БАБРУЙСКАЕ БЕЛАРУСКЛАЕ АСАЦЫЯЦЫІ АХВЯР ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСЫЯЎ

Вышэй названая арганізацыя, зь якой мы праз «Кантакрты ККБК» трымаем сувязь, паведаміла нас, што 17 ліпеня яны будуць сьвяткаваць 10-я ўгодкі свае арганізацыі.

І: «На юбілей запрошаны прадстаўнікі з зарубежных пасольстваў акрэдытаваных у РБ, госьці з усіх куткоў нашай краіны, прадстаўнікі Вярхоўнага Савета 13 скліканьня. Будзе мітынг-рэквіем у помніка ахвярам палітрычных рэпрэсыяў. Адслужаны паніхіды сьвятарамі каталіцкай і прваслаўнай царквы. У гэты-ж дзень будзе праведзены вечар памяці.

Былі-б вельмі ўдзячны, калі-б ад Вас атрытмалі ліст, альбо тэлегтраму, якую мы зачытаем на мітынгу. Калі магчыма, просім зьмясьціць гэту інфарнчмацыю ў беларускіх газэтах і даслаць іх нам. (.....) Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсый выказвае жаданьне больш цесна супрацоўнічаць зь беларусамі Канады.»

У вадказ на гэты ліст Старшыня ККБК выслала ім Факсам на блянку ККБК ліст наступнага зьместу:

13 ліпеня, 1999

Яе Міласьці Спадарыні Ганьне Бакач,
Старшыні Бабруйскай беларускай асацыяцыі
ахвяраў палітычных рэпрэсыяў,
вул. Чангарская, буд. 81/25, кв. 2,
213826, г. Бабруйск, Баларусь

Паважаная Спадарыня Ганна Бакач:

Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады маю гонар і прыемнасьць вітаць Бабруйскую беларускую асацыяцыю ахвяраў палітычных рэпрэсыяў зь дзясятымі ўгодкамі ейнага дзейнага іcнаваньня.

Мы вітаем дзейнасьць Бабруйскай беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, калі яна накіравана на асуджаньне генацыду дакананага над чалавецтвам, а ў прыватнасьці на асуджаньне духовага й фізычнага генацыду над беларускім народам, які цярпеў яго ад тэрору камуністычнага рэжыму ды церпіць яго ўсьцяж ад цяперашняга й надалей.

Калі ў Беларусі аплёўваецца й вынішаецца беларуская мова - душа народу, ягоная гістарычная спадчына, ягоная гістарычная сымболіка - Пагоня й Бел-Чырвона-Белы Сьцяг - калі вынішчаецца ў Беларусі Беларушчына, вынішчаецца народ - гэта генацыд беларускага народу, беларускае нацыі.

Мы, беларуская эміграцыя як і ўсё міжнароднае супольства асуджаем генацыд аднаго народу над другім. Мы асуджаем ламаньне людзкіх правоў у Рэспубліцы Беларусі. Мы асуджаем і пратэстуем супраць вынішчаньня Беларушыны ў Беларусі, супраццьгенацыду беларускага народу.

Змагары за людзкія правы незалежнага, вольнага існаваньня й разьвіцьця кожнага народу на ягонай собскай этнічнай тэрыторыі, якія сталіся ахвярамі варожых рэпрэсыяў у мінулым і цяпер, заслугоўваюць на нашую пашану й вечную памяць.

Жыве Беларусь!

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Старшыня ККБК

## 159-я ўгодкі ад нараджэньня Бацькі беларускага адраджэньня ФРАНЬЦІШКА БАГУШЭВІЧА

Лік угодкаў ня круглы, але з розных прычынаў яшчэ ў гэтым тысячыгодзьдзі аб іх нам трэба цяпер гаварыць.

125-я ўгодкі ад нараджэньня й 65-я ад сьмерці Франьцішка Багушэвіча мы вельмі старанна й прыгожа адзначалі ў БР-ГЦ у Таронта ў 1965 годзе. Апісаньне падзеі, ў «Бацькаўшчыне», Мюнхэн, 6 (633), 1965, падаем тут:

## УГОДКІ ФРАНЬЦІШКА БАГУШЭВІЧА.

Была восень 1965 году. Больш за сто год ад таго часу й больш за тры тысячы міль ад таго мейсца, дзе радзіўся й жыў Франьцішак Багушэвіч, жменька людзей, бо ня тысячы ці сотні, а сьціплыя дзясяткаі, між мільёнаў чужога мора , закінутыя бурай жыцьця ў далёкую Канаду, аддавалі пашану Таму, за чыім клічам - «Не пакідайце-ж мову нашай беларускай, каб ня ўмерлі!» - ішлі. Мо іх і ня шмат, але яны ня ўмерлі.

24 кастрычніка ў БАПЦаркве сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта адпраўляецца Сьв. Літургія, а побач царквы-капліцы заля, якая сяньня таксама мае атмасфэру сьвятыні . Чаму? Сяньня яна госьціць Вялікага Дастойніка Франьцішка Багушэвіча. І прысутнасьць Яго тут адчуваецца. Кажны, хто ўваходзіць у закю, проста накіроўвае свае крокі напокуць, дзе пад слаўнай Пагоняй на беларускай дзяружцы між сьцягамі лунае **партрэт Франьцішка Багушэвіча й ягоны бессьмяротны кліч - «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!»**

Пасьля Багаслужбы заля напаўняецца. А першай гадзіне старшыня ЗБК маг. Алесь Грыцук адкрывае акадэмію й дае слова дакладчыку др-у Вінцэнту Жук-Грышкевічу.

«Роўна 125 год таму нарадзіўся й роўна 65 год таму памёр бацька беларускага адраджэньня Франьцішак Багушэвіч....» - пачаў дакладчык. Ён пераносіць нас думкамі на Беларусь у цёмную данашаніўскую пару, шукае прычынаў і дзейнікаў , якія фармавалі душу вялікага патрыяты й дзеяча. З партрэту на сьцяне зыходзіць на залю малады студэнт, а тады юрысты..., а тады паўстанец... І ўжо не дакладчык, а «сялянскі адвакат» з гарачай беларускай душой вядзе з намі гутыарку . Ён гаворыць аб слаўнай нашай мігуўшчыне , аб тых дзяржаўных актах , пісаных нашай «чысьцюсенькай беларускай мовай», якую мы павінны шанаваць і не пакідаць. «Калыханкай» - прыпамінае матку ; нясе настальгію пытаючыся: « Гдзе

радзіліся, гдзе-ж вы хмарачкі? Гдзе тутэйшымі называліся?... Зямлі родненькай знаць няма ў вас , ні ўтулачку, ні прытулачку...»

А мы, што Яму адказалі ?... За 65 год ад ягонай сьмерці да чаго дабіваліся, што асягнулі? ... На разьвітаньне толькі абяцалі: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі. . ў крывавых муках мы народзім жыцьцё Рэспублікі Сваёй». Ці датрымаем слова ?

**Р.Ж.**

Калі ласка, ня нішчце таго абраза зь несьмяротным клічам, якім у 1965 годзе мы **аддавалі пашану** бацьку беларускага адраджэньня **Францішку Багушэвічу.**

«Шукайце праўды, яснага праменьня,
Шукайце новых, неадкрытых дарог.
Але ня нішчце прошласьці алтароў,
На іх яшчэ сьвяты агонь гарыць,
І пры іх усьцяж вартуе Бог. »

(Пераклад з польскага)

## 80-я ўгодкі ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ й 80-я ўгодкі сьмерці закладчыка яе ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА.

Як мы ўжо на пачатку гэтага году пісалі, сёлета прыпадаюць 80-я ўгодкі Віленсклай Беларускай Гімназіі. Сёлета 20-га жніўня спаўняюцца й 80-я ўгодкі сьмерці Івана Луцкевіча, фактычнага яе закладчыка, заснавальніка й стваральніка Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Імя Івана Луцкевіча сталася сынонімам ахвярнасьці й адданасьці справе, палітычнага розуму й няўтомнай дзейнасьці ў палітычным, грамадзкім й культурным кірунку.

Памёр Іван Луцкевіч у 1919 годзе. У студзені гэтага-ж году, дагараючы на сухоты, пасьпеў яшчэ на ўрачыстым адкрыцьці Віленскай Беларускай Гімназіі сказаць палкую патрыятычную прамову. Тады накіраўвалі яго лячыцца ў Закапанае, дзе 20 жніўня памёр і там быў пахаваны.

7 верасьня, 1969 году, Згуртаваньне Беларусаў Канады арганізавала ў залі БР-ГЦ акадэмію на 50-я ўгодкі сьмерці Івана й 30-я - Антона Луцкевічаў. Браты Луцкевічы былі закладчыкамі газэты «Нашай Нівы».

Пасьля літургіі, у якую была ўлучана малітва за супакой душаў Івана й Антона Луцкевічаў, адбылася ў іхнюю памяць урачыстая акадэмія. Адчыніў яе старшыня ЗБК Мікола Ганько ды перадаў голас дакладчыку др. Вінцэнту Жук-Грышкевічу.

Міколу Ганька пахавалі мы сёлета, Вінцэнта Жук-Грышкевіча, гадунца Братоў Луцкевічаў, дзесяць год таму.

«Мы не памром, хоць шмат магілаў
на шляху нашым упаперак лягло.»

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !**

---

Бэры - Таронта
Ліпень, 1999

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Старшыня